ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№9 (2515)

27 лютага 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## МІХАІЛУ САВІЦКАМУ — 75



18 лютага Міхаілу Андрэевічу Савіцкаму, вядомаму і прызнанаму мастаку, споўнілася 75 год. У гэты дзень, відаць, не было такой газеты, якая б не змясціла матэрыял пра Майстра.

Прэзідэнт А. Лукашэнка наведаў М. Савіцкага ў дзень яго нараджэння ў майстэрні мастака і ўручыў яму ордэн Ф. Скарыны, якім М. Савіцкі ўзнагароджаны ў сувязі з юбілеем. А перад гэтым афіцыйнае віншаванне ад імя Прэзідэнта было перададзена па ўсіх каналах сродкаў масавай інфармацыі.

"Мастацкія вобразы, створаныя Вамі, адлюстравалі гісторыю краіны, час, які нёс у сабе і трагічнае, і гераічнае, і прыгожае, — гаворыцца ў віншаванні Прэзідэнта. — Вашай творчасці з самага пачатку было ўласціва глыбокае імкненне ў сутнасць мінулага і сучаснага, філасофскае іх асэнсаванне, сцвярджэнне вечных духоўных каштоўнасцей, страснае выяўленне гуманістычных ідэй.

Амаль два дзесяцігоддзі Вы прысвяцілі высакароднай справе падрыхтоўкі і выхавання моладзі ў творчай акадэмічнай майстэрні жывапісу. Гэты бок Вашай дзейнасці мае вялікае практычнае значэнне для развіцця культуры Беларусі.

Вашы творчыя дасягненні, нястомная праца на карысць народа, актыўная грамадская дзейнасць атрымалі высокае прызнанне і адзначаны многімі ганаровымі званнямі і ўзнагародамі.

Але самая вялікая ўзнагарода Вам — гэта Ваш талент. Талент Мастака, Майстра.

Перакананы ў тым, што Вы заўсёды будзеце арыенцірам майстэрства, духоўнасці і патрыятызму для ўсяго грамадства, парадуеце сваю Бацькаўшчыну новымі палотнамі, якія нясуць мужнасць і чысціню, дабро і веру".

20 лютага ў зале Белдзяржфілармоніі сталіцы адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею М. А. Савіцкага.

Да хору віншаванняў Майстру далучаецца "Голас Радзімы" і таварыства "Радзіма", старшынёй праўлення якога Міхаіл Андрэевіч быў на працягу многіх гадоў.

НА ЗДЫМКУ: М. САВІЦКАГА віншуе Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.

*(Гутарку з М. Савіцкім чытайце ў наступным нумары "Голасу Радзімы").*

## НІВОДНАЯ КРАІНА НЕ ЗНАЙШЛА ДАСКАНАЛАГА ВЫРАШЭННЯ ПРАБЛЕМЫ ПАБУДОВЫ ГРАМАДСТВА І ІДЭАЛЬНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СТРУКТУР

### ІНТЭРВ'Ю З НАДЗВЫЧАЙНЫМ І ПАЎНАМОЦНЫМ ПАСЛОМ ФРАНЦУЗСКАЙ РЭСПУБЛІКІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ КЛОДАМ ЖАЛІФАМ

***— Пан пасол, вы прадстаўляеце Французскую Рэспубліку ў Беларусі з красавіка 1992 года. Якое ўражанне робіць на вас наша краіна?***

— Пасля амаль пяцігадовага знаходжання я думаю, што ўжо мінуў стадыю ўражанняў. Я зведваю хутчэй пачуццё зродненасці, якое мае і свае недахопы, і свае перавагі: з аднаго боку, мне здаецца, што я нядрэнна ведаю гэтую краіну і яе жыхароў, нават калі гэта ў некаторай ступені ілюзорна, з другога боку, я адчуваю дачыненне, можа нават залішняе, да тых негатыўных ці станоўчых працэсаў, якія тут адбываюцца.

***— Як сёння ў Францыі ацэньваюць палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь, і ці паўплываюць перыпетыі нашага палітычнага жыцця на развіццё беларуска-французскіх адносін?***

— Вельмі нямногія французы маюць уяўленне, нават прыблізнае, пра тутэйшую сітуацыю і пра Беларусь у цэлым. Прэса аб гэтым не піша, толькі ў выпадку, калі адбываюцца такія яркія падзеі, як, напрыклад, апошні рэферэндум, і трэба прызнаць, што большасць аналізаў, апублікаваных у газетах, носяць у асноўным крытычны характар. Перад краінай стаіць канкрэтная праблема іміджу, паколькі, хочам мы гэтага ці не, але манера бачання рэчаў, французская грамадская думка, што склалася за гэты час, ды і міжнародная таксама, уплываюць на развіццё двухбаковых адносін.

***— Наколькі ў Францыі рэалізавана ідэя пабудовы дэмакратычнага грамадства? Што з французскага вопыту ў гэтым сэнсе, вы лічыце, можна ажыццявіць ва ўмовах станаўлення суверэннай беларускай дзяржавы?***

— Ніводная краіна, уключаючы і маю, не знайшла бездакорнага і канчатковага вырашэння праблемы пабудовы грамадзянскага супольніцтва і ідэальных дэмакратычных структур. Нават калі б недзе гэта здарылася, жыццё заўсёды падносіла б новыя праблемы. За апошнія 15—20 гадоў у Францыі, як і ва ўсім астатнім свеце, адбыліся значныя змены ў эканамічным і сацыяльным плане. Французская самабытнасць у параўнанні з іншымі заходнімі краінамі мае дастатковае праяўленне, хаця не заўсёды лёгка яе вызначыць: яна заключаецца ў нацыянальным тэмпераменце — быць адначасова і кансерватарам, і ўмець адстойваць свае правы, у прыхільнасці да некаторых культурных каштоўнасцей і так-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ЯН ВІСЛІЦКІ — ЯШЧЭ АДНО ЗАБЫТАЕ ІМЯ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

XVI стагоддзе — час незвычайнага ўздыму культуры, развіцця асветы, грамадскай думкі Вялікага Княства Літоўскага (згодна з тлумачэннем перакладчыка з лацінскай мовы А. Жлутка "Літва (Litva) — гэта лацінамоўны адпаведнік славянскай назвы "Крывія". Менавіта ад лацінскай мовы ўтварыўся этнонім "літвін", ад славянскай — "крывіч") — адной з найбуйнейшых і наймагутнейшых дзяржаў Еўропы, краіны з дэмакратычным (па тым часе) грамадскім ладам, з высокім узроўнем прававой культуры, з рэлігійнай і этнічна-культурнай цярпімасцю.

Росквіт культуры XVI стагоддзя справядліва атаясамліваецца найперш з дзейнасцю першадрукара Беларусі і ўсіх усходніх славян Францішка Скарыны, выданнем ім кніг у 1517—1525 гадах і з далейшым развіццём кнігадрукавання яго паслядоўнікамі не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, і на Украіне. Тагачаснае прыгожае пісьменства, якое распаўсюдзілася на тэрыторыі шматканфесійнай Беларусі, дасягнула вышыні не толькі на старабеларускай і царкоўнаславянскай мовах, але і на лацінскай — мове навукі і літаратуры сярэднявечнай Еўропы. Ян Вісліцкі і Мікола Гусоўскі — найярчэйшыя зоркі лацінамоўнай паэзіі Беларусі XVI стагоддзя.

Ян Вісліцкі (1480—1520) паходзіў, па меркаваннях даследчыкаў, з незаможнай (сялянскай ці мяшчанскай) сям'і з паселішча, якое знаходзілася на берагах ракі Вісліца, паміж Клецкам і Пінскам. Ён скончыў Ягелонскі універсітэт у Кракаве. Вучыўся ў паэта Паўла Русіна з Кросна (Украіна), які высока ацэньваў талент Яна і нават прысвяціў яму хвалебную оду. Даследчыкі лічаць, што ў 1506 годзе Вісліцкі атрымаў ступень бакалаўра свабодных мастацтваў, у 1510—1512 гадах выкладаў там жа ў званні магістра (у дакументах пазначаны як "русін"). Пісаў элегіі, оды, эпіграмы на лацінскай мове, якой тады карысталіся ўсе адукаваныя людзі Еўропы. Адна з яго одаў прысвечана Аршанскай бітве 1514 года.

Ён стаў вядомым пасля напісання лацінамоўнай паэмы "Пруская вайна", выдадзенай у Кракаве ў 1516 годзе, у якой узнёсла і эпічна ўславіў перамогу аб'яднаных славянскіх войскаў над Тэўтонскім ордэнам. Ён адзін з першых гуманістаў эпохі асэнсаваў у паэме значэнне перамогі для гістарычнага лёсу славянскіх і прыбалтыйскіх народаў (апошніх у той час абаранілі славяне ад асіміляцыі немцамі), сцвердзіў ідэю еднасці перад варожай агрэсіяй. Услаў-

(Працяг на 6-й стар.).



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*НА ДЗЯРЖАЎНЫМ АЛІМПЕ*

# СЯРГЕЙ ЛІНГ — ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ



Цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання — Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь узначаліў вядомы палітык і эканаміст Сяргей Лінг. 19 лютага Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу дала згоду Прэзідэнту краіны на назначэнне Сяргея Лінга прэм'ер-міністрам.

Сяргей Сцяпанавіч Лінг нарадзіўся ў Мінску ў 1937 годзе. Па адукацыі — вучоны аграном, закончыў у 1960 годзе Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Першыя дзесяць гадоў яго працоўнай дзейнасці былі непасрэдна звязаны з сельскай гаспадаркай. Працаваў аграномам, галоўным аграномам, начальнікам шэрагу раённых упраўленняў сельскай гаспадаркі. З 1971 года Сяргей Лінг знаходзіўся на савецкай і партыйнай рабоце.

У 1986 годзе ён узначаліў Дзяржкамітэт БССР па цэнах, у 1991-м назначаны старшынёй Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па эканоміцы і планаванню, міністрам эканомікі. У 1991—1994 гадах Сяргей Лінг працаваў намеснікам Старшыні Савета Міністраў.

Пасля ўвядзення ў рэспубліцы пасады Прэзідэнта і выбрання новага саставу ўрада Сяргей Лінг быў назначаны намеснікам прэм'ер-міністра.

18 лістапада 1996 года ўказам Прэзідэнта ён быў назначаны выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра.

"Калі б я не адчуваў упэўненасці ў тым, што спраўлюся з даручаным мне ўчасткам работы, я ніколі не ўзяўся б за яго. Я даволі адказны чалавек", — заявіў у сваім першым інтэрв'ю журналістам новы прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг. Гэта было адразу пасля таго, як 19 лютага ніжняя палата парламента дала Прэзідэнту згоду на яго назначэнне кіраўніком урада.

Паводле слоў С. Лінга, выконваючы на працягу апошніх трох месяцаў абавязкі прэм'ер-міністра, ён за гэты час адчуў свае магчымасці і сілы, а таксама тое, што можа абаперціся ў гэтай рабоце на сваіх калег. Ён выказаў упэўненасць, што ўрад зможа забяспечыць паспяховае выкананне задач, пастаўленых перад ім.

Новы прэм'ер лічыць галоўным на гэтым этапе забяспечыць дастойны ўзровень жыцця людзей. Вырашэнне праблемы ён бачыць праз развіццё вытворчасці. Ён выказаў задавальненне, што ў гэтым напрамку ёсць ужо некаторыя станоўчыя вынікі. На думку С. Лінга, стаўку ў развіцці эканомікі неабходна рабіць, разлічваючы, перш за ўсё, на свае сілы. "Калі мы будзем умела працаваць са ўнутранымі інвестыцыямі, а таксама стварым пэўныя ўмовы для ўлівання замежнага капіталу, то ў Беларусь прыйдуць і замежныя інвестыцыі", — сказаў кіраўнік урада. Пры гэтым ён адзначыў, што нельга поўнасцю прыніжаць ролю знешніх паступленняў. На яго думку, дынаміка прытоку замежных інвестыцый будзе станоўчай.

Гаворачы аб сваіх адносінах да інтэграцыі з Расіяй, С. Лінг падкрэсліў, што Расія для нас — прыярытэт нумар адзін. Расійская Федэрацыя, сказаў ён, стратэгічны партнёр Беларусі. І нашы адносіны павінны будавацца на ўзаемавыгаднай аснове. "Падпісваючы дагавор з Расіяй, мы правялі папярэдне разлікі, усё ўзважылі з улікам нашых эканамічных інтарэсаў", — заявіў прэм'ер-міністр.

*АФІЦЫЙНА*

# СУСВЕТНЫ БАНК І РЭФАРМАВАННЕ БЕЛАРУСКАЙ ЭКАНОМІКІ

18 лютага Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі Сусветнага банка — прэстыжнай і магутнай міжнароднай фінансавай арганізацыі, заснавальнікам якой з'яўляецца і наша краіна.

Дзелавыя кантакты з гэтым банкам маюць важнае значэнне для Беларусі, бо яго палітычная неангажыраванасць забяспечвае надзейнасць і пераемнасць сумесных эканамічных праграм. У час сустрэчы абмяркоўваліся актуальныя для нашай краіны фінансава-эканамічныя праблемы, а таксама пытанні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Найбольш грунтоўна былі разгледжаны пытанні, якія датычаць рэфармавання дзяржаўных прадпрыемстваў, цэнавай і грашова-крэдытнай палітыкі. Прадстаўнікі Сусветнага банка выказалі гатоўнасць аказаць метадычную і фінансавую падтрымку канкрэтным мерапрыемствам па рэфармаванню беларускай эканомікі, якія намечаны Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года.

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

# ВІЗІТ ПАСЛА

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі Віктарас Баўбліс 17 і 18 лютага зрабіў азнаямленчую паездку на Брэстчыну.

У час сустрэчы са старшынёй Брэсцкага аблвыканкома Уладзімірам Заламаем былі абмеркаваны стан эканамічных сувязей дзвюх дзяржаў і перспектывы дзелавога супрацоўніцтва Беларусі і Літвы, у тым ліку і на рэгіянальным узроўні. Літоўскі дыпламат сустрэўся таксама з адміністрацыяй свабоднай эканамічнай зоны "Брэст", наведаў шэраг буйных прамысловых прадпрыемстваў і аграрных гаспадарак вобласці.

Па словах Віктараса Баўбліса, прыезд у Брэст — толькі пачатак яго знаёмства з рэгіёнамі Беларусі. З горада над Бугам ён адправіўся ў Гродна.

# ЗАКЛАДЗЕНЫ ПАДМУРАК

18 лютага ў Мінску па вуліцы Камуністычнай адбылася ўрачыстасці з нагоды закладкі першай цагліны ў будынак пасольства Украіны.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Украіны ў Рэспубліцы Беларусь Уладзімір Жаліба ў прысутнасці высокапастаўленых афіцыйных асоб з абодвух бакоў, будаўнікоў і гасцей заклаў у падмурак будынка капсулу са зваротам да нашчадкаў з пажаданнем будучым пакаленням жыць у міры і дабрабыце. Пасол падкрэсліў, што гэта першы такі будынак дыпламатычнай місіі, які самастойна будуецца Украінай за мяжой. Іншыя пасольскія будынкі выкупляліся ці арандаваліся МЗС Украіны. Гэты ж будынак узводзіцца па рашэнню ўкраінскага ўрада і прэзідэнта, і Жаліба назваў гэта яшчэ адным сведчаннем таго, што Украіна канчаткова і беспаваротна стала на шлях будаўніцтва незалежнай дзяржавы.

*ПРЫЗНАЧЭННІ*

# У. СЯНЬКО — У ПАРЫЖ

Былы міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько ўказам Прэзідэнта А. Лукашэнкі назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Французскай Рэспубліцы, Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры ЮНЕСКА, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Іспаніі і Партугаліі па сумяшчальніцтву.

*НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ*



1 сакавіка споўніцца 80 гадоў з дня нараджэння Фёдара Шмакава, акцёра і рэжысёра, народнага артыста Беларусі і СССР. 55 гадоў сваёго жыцця ён служыць адзінаму тэатру — Беларускаму дзяржаўнаму акадэмічнаму драматычнаму імя Якуба Коласа ў Віцебску, прымае актыўны ўдзел у творчых сустрэчах, радыё- і тэлевізійных перадачах.

Кінагледачы помняць Ф. Шмакава па цікавых і папулярных фільмах "Узнятая цаліна", "Балтыйскае неба", "Людзі на балоце" і іншых. Апошнім часам з поспехам іграе ролі ў спектаклях "Рэвізор" па п'есе М. Гогаля, "Кароль Лір" — У. Шэкспіра, "І паміраючы дрэвы стаяць" — А. Касоны, сам паставіў некалькі спектакляў.

НА ЗДЫМКУ: Фёдар ШМАКАЎ.

*АПАЗІЦЫЯ*

# ДЗЕЯННІ І НАМЕРЫ

Дзень святога Валянціна частка сталічнай моладзі адзначыла на вуліцах і праспектах Мінска. 14 лютага па ініцыятыве маладзёжнай фракцыі БНФ адбылося шэсце пад назвай "Беларусь — у Еўропу".

Дэманстранты зрабілі "круг гонару", абышоўшы пасольствы еўрапейскіх краін — Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі, Германіі, Расіі, а таксама ЗША і ўручыўшы дыпламатам петыцыю, сутнасць якой заключаецца ў дэманстрацыі імкнення моладзі ў еўрапейскую супольнасць.

Арганізатары шэсця далі свае каментарыі адносна надзённых падзей. Паводле іх слоў, падчас мерапрыемства двойчы адбыліся сутычкі з органамі праваапарадкі, прычым апошнія прымянілі дубінкі і слёзатачывы газ. Як сцвярджае Віталь Умрэйка, адзін з тых, хто падаваў заяўку ў Мінгарвыканком на дазвол акцыі, па стану на 17 лютага было арыштавана 96 чалавек, сярод якіх ёсць выпадковыя людзі. Па звестках міліцыі, гэта лічба роўная 36.

Як піша газета "Звязда", стаў вядомы таксама далейшы план дзеянняў апазіцыі: 22 лютага жанчыны арганізавалі шэсце "Супраць галечы і голаду", 2 сакавіка БНФ адзначыць юбілей бітвы на Нямізе, 15 сакавіка Камітэт у абарону Канстытуцыі правядзе ўласную акцыю, а 23-га апазіцыя ўспомніць гадавіну абвяшчэння БНР.

*25 ГАДОЎ НА СЦЭНЕ*



Ужо чвэрць стагоддзя на сцэне папулярны эстрадны дуэт Ядвіга ПАПЛАЎСКАЯ і Аляксандр ЦІХАНОВІЧ (на здымку).

Усе гэтыя гады яны карыстаюцца пастаяннай любоўю ўдзячных гледачоў. Гарманічна дапаўняючы адзін аднаго, артысты не толькі прафесійна выконваюць, але яшчэ і ствараюць вобраз песні. У Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі прайшоў юбілейны вечар заслужаных артыстаў рэспублікі Ядвігі Паплаўскай і АляксандраЦіхановіча, прысвечаны 25-годдзю іх творчай дзейнасці.

*ЦЭНТР «УСХОД—ЗАХАД»*

# НОВЫ ПРЭЗІДЭНТ

На штогадовым сходзе нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў "Усход—Захад" былі абраны новы савет цэнтра і прэзідэнт, якім стаў вучоны-эканаміст Леанід Заіка. Як вядома, былы прэзідэнт Анатоль Майсеня загінуў у канцы мінулага года ў аўтамабільнай катастрофе.

Цэнтр пацвердзіў свае намеры прытрымлівацца раней прынятага статута НЦСІ "Усход—Захад".

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

**КУЗЬМЕ ІВАНАВІЧУ ШАПЛЫКУ**, старшыні вядомага калгаса "Чырвоная змена" Любанскага раёна, споўнілася 80 год. Больш за паўвека кіраваў калектыўнай гаспадаркай гэты таленавіты і мудры чалавек. Цяпер калгас даверылі больш маладому спецыялісту, а Кузьму Шаплыку сяляне абралі ганаровым старшынёй.

**НА ТЭРЫТОРЫІ** Беларусі ёсць 736 праваслаўных цэркваў і 277 касцёлаў. З 2 113 рэлігійных абшчын 967 — праваслаўныя, 391 — каталіцкая, 644 — пратэстанцкія.

**ПАЛЕПШЫЦЬ** жыццё людзей, што апынуліся за рысай беднасці, мае намер новая праграма падтрымкі малога прадпрымальніцтва Прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Сутнасць яе ў тым, каб даць мікракрэдыты тым, хто хоць і апынуўся ў безнадзейнай сітуацыі, але здольны яшчэ заняцца вытворчай дзейнасцю.

**ПАЧАЎ** дзейнічаць нядаўна створаны на Беларусі "Слаўнафтабанк". Кантрольны пакет акцый — 57 працэнтаў — належыць беларускаму боку. Банк будзе прымаць удзел у рэалізацыі буйнога праекта па рэканструкцыі Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.

**ПАД РАКОЙ** Заходні Буг на дзяржаўнай мяжы на глыбіні 5 метраў пракладзены 200-метровы валоконааптычны кабель. Ён павінен забяспечыць больш сучасную і больш якасную сувязь паміж Беларуссю і Польшчай.

**БОЛЬШ** за 200 бежанцаў з краін блізкага замежжа прыбылі летась на Гомельшчыну. Наседжаныя месцы вымушаны былі пакінуць рускія і беларусы, якія жылі ў Латвіі, Азербайджане, Таджыкістане і Чачні.

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ** банк Беларусі ўвёў у абарачэнне сярэбраную манету вартасцю 20 рублёў, прысвечаную 75-годдзю банкаўскай сістэмы Рэспублікі Беларусь, якое адзначаецца ў гэтыя дні.

**З ПОЛЬСКАГА** порта Гдыня адпраўлены ў Аргенціну 75 трактароў "Беларусь". Да вясны аргенцінскія фермеры атрымаюць яшчэ 58 нашых трактароў.

# НІВОДНАЯ КРАІНА НЕ ЗНАЙШЛА ДАСКАНАЛАГА ВЫРАШЭННЯ ПРАБЛЕМЫ ПАБУДОВЫ ГРАМАДСТВА І ІДЭАЛЬНЫХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СТРУКТУР

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

сама ў наданні важнай ролі дзяржаве, ад якой французы часта чакаюць занадта многага. Магчыма, менавіта такі пастаянны пошук кампрамісу паміж індывідуальнымі свабодамі і дзеяннямі грамадскіх структур, які мы бачым на прыкладзе Францыі, можа больш за ўсё зацікавіць такую краіну, як Беларусь.

***— Пан пасол, ці не маглі б вы назваць асноўныя прынцыпы функцыянавання французскай эканамічнай і палітычнай сістэмы!***

— Складана ў некалькіх фразах выкласці такую важную тэму. Я абмяжуюся пералічэннем некалькіх фундаментальных прынцыпаў, на якіх пабудавана жыццё нашай краіны: клопат аб незалежнасці, асабліва, калі на карту пастаўлены нашы жыццёва важныя інтарэсы ці нашы фундаментальныя прынцыпы; але і ў той жа час адкрытасць свету і салідарнасць з іншымі дзяржавамі, у першую чаргу, з краінамі Еўрапейскага Саюза; нарэшце, нашы асабліва трапяткія адносіны да некаторых агульначалавечых каштоўнасцей, як, напрыклад, правы чалавека. Але, я яшчэ раз паўтараю: размова ідзе пра глабальныя тэндэнцыі, якія трэба адаптаваць да праблем, што патрабуюць вырашэння, і што прымушае часта знаходзіць далёка не ідэальнае выйсце.

***— Як вы лічыце, зыходзячы з гістарычнага вопыту станаўлення Французскай Рэспублікі, ці магчыма ў бліжэйшай перспектыве стварыць па-сапраўднаму дэмакратычную беларускую дзяржаву!***

— Складана параўноўваць, і трэба прызнаць, што на сённяшні момант у Беларусі праблемы больш небяспечныя, чым у Францыі. У той жа час, і ў нашай гісторыі былі выпадкі нацыянальных катастроф, і не заўсёды мы ўмелі супраціўляцца спакусе ўжыць аператыўнае ўмяшанне ці дагматычныя метады. Але наш вопыт, у якім назапашаны і перамогі, і паражэнні, сведчыць, што вырашэнне крызісу дасягаецца заўсёды шляхам дыялога і захавання дэмакратыі.

***— Як вядома, краевугольным каменем дэмакратыі з'яўляюцца свабодныя і дэмакратычныя выбары. На якіх прынцыпах яны грунтуюцца і праводзяцца ў краінах Еўрапейскага Супольніцтва!***

— Свабодныя і дэмакратычныя выбары з'яўляюцца важным элементам дэмакратычнага жыцця, але яны не адзіны такі элемент: сюды трэба дадаць індывідуальныя свабоды, а таксама тое, што не з'яўляецца самым лёгкім, — выпрацоўку пачуцця адказнасці ў грамадзян шляхам уцягнення іх ва ўдзел у сацыяльным жыцці пры дапамозе падачы разнастайнай інфармацыі ці з дапамогай іх прыналежнасці да палітычных партый ці грамадскіх арганізацый. Ва ўсіх краінах Еўрапейскага Саюза ў арганізацыю выбарнай кампаніі ўваходзіць прадастаўленне кандыдатам сродкаў для ажыццяўлення іх перадвыбарнай агітацыі, уключаючы тэлебачанне, і гарантыя рэгулярнага правядзення выбарных аперацый. У некаторых краінах, у тым ліку і ў Францыі, заклапочанасць іншы раз выклікае дэманстрацыя пэўнай долі скептыцызму ў часткі насельніцтва, якая сведчыць аб адмове ўдзельнічаць у палітычным жыцці і выяўляецца ці ва ўхіленні ад выбарнай працэдуры, ці ў галасаванні за экстрэмісцкія партыі.

***— Права грамадзян на атрыманне інфармацыі з'яўляецца адной з важнейшых умоў дэмакратыі. У чым заключаецца механізм яго рэалізацыі ў Францыі! Ці не маглі б вы ахарактарызаваць, як пабудавана дзейнасць сродкаў масавай інфармацыі!***

— Грамадзяне атрымліваюць інфармацыю ў асноўным з прэсы і тэлебачання. Дзяржаўнай прэсы не існуе, а штодзённыя і перыядычныя выданні, якія выпускаюцца рознымі партыямі, больш не маюць шырокага хаджэння. Аднак можна знайсці вялікую колькасць разнастайных незалежных друкаваных органаў, што маюць у большасці сваёй пэўную палітычную афарбоўку. Што тычыцца радыё і тэлебачання, то тут існуе незалежная камісія, закліканая сачыць, у прыватнасці, у перыяд выбараў за тым, каб розныя пункты гледжання былі раўнамерна прадстаўлены ў інфармацыйных праграмах.

***— Апошнім часам усё часцей абмяркоўваецца праблема аб "прасоўванні НАТО на Усход". Ці ўзрастае, на вашу думку, ваенная пагроза Беларусі ў сувязі з маючым адбыцца ўступленнем у НАТО шэрагу еўрапейскіх краін былога сацыялістычнага лагера!***

— Зусім відавочна, што ніякай ваеннай пагрозы для Беларусі не існуе, як і няма з яе боку, і пашырэнне НАТО ідзе хутчэй у плане стабільнасці. Гэтая палітыка пашырэння звязана з разважаннем над пераўтварэннямі ў структурах і мэтах арганізацыі, а таксама ў галіне яе адносін са сваімі ўсходнімі суседзямі, пачынаючы з Расіі.

***— Пан пасол, апошняе пытанне: як вы расцэньваеце перспектыву развіцця беларуска-французскіх адносін!***

— Патэнцыял іх развіцця вялікі ва ўсіх галінах, як у палітычнай, так і ў эканамічнай і культурнай. Сённяшняе становішча не дазваляе спадзявацца на неадкладны, значны прагрэс у гэтым плане. Але я ўпэўнены, што наша агульная прыналежнасць да Еўропы і шматлікія дачыненні, якія нас збліжаюць у гістарычным і культурным аспектах, прывядуць нас у рэшце рэшт да таго, што нашы адносіны стануць значна больш цеснымі.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

## *АДПАЧЫНАК*

# МЫ ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ... КАЛІ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ГРОШЫ

**Той, хто ведаў жыццё пры савецкіх часах, памятае тагачасную сістэму заахвочвання і стымулявання грамадзян, закліканую падтрымліваць на неабходным узроўні дух і памкненні будаўнікоў светлага камуністычнага заўтра. Канешне, большасці даставаўся "пернік" у выглядзе прэміяльнай дзесяткі да зарплаты, граматы на юбілей і медаля да выхаду на пенсію. Але здараліся і шчаслівчыкі (часцей за ўсё рознага рангу начальнікі і начальнічкі, дзеячы прафсаюзных і партыйных арганізацый ці проста прыбліжаныя да іх асобы), якім выпадала нешта больш істотнае: дэфіцытны тавар па-за чаргой, пуцёўка ў санаторый, а некаму нават і паездка за мяжу. Дарэчы, апошняе было запаветнай марай многіх, але марай практычна нездзяйсняльнай. Савецкія кіраўнікі добра разумелі: ім асабіста спакайней і лягчэй, калі народ менш раз'язджае, менш параўноўвае сваё жыццё з тым, як жывуць іншыя. А тое, што параўнанне будзе непазбежна не на карысць уласнай краіны, усе гэтыя генеральныя і проста сакратары ведалі добра, бо самі бачылі не толькі Венгрыю, Чэхаславакію ці Югаславію — асноўныя турыстычныя "мекі" савецкіх людзей, але і краіны "загніваючага капіталізму", куды простаму чалавеку шлях быў наогул закрыты.**

**Але надышоў час, і жалезная заслона не вытрымала, рухнула, нашы савецкія суграмадзяне-калумбы актыўна пачалі адкрываць для сябе ўвесь навакольны свет. Дзяржаўныя ўстановы па арганізацыі замежнага турызму ўжо не маглі задаволіць попыт, і тады пачалі з'яўляцца прыватныя, сумесныя з замежнымі партнёрамі турыстычныя агенцтвы. Іх было шмат. Многія не вытрымалі, але тыя, што засталіся, у большасці сваёй ужо набылі вопыт і сёння працуюць высокапрафесійна, з вялікай адказнасцю за сваю работу. Сумесная беларуска-кіпрская фірма VIP-TOURS адносіцца менавіта да такіх арганізацый. Таму, каб даведацца пра пэўныя аспекты цяперашняга стану замежнага турызму ў краіне, мы звярнуліся да генеральнага дырэктара VIP-TOURS, вопытнага прафесіянала ў гэтай галіне Уладзіміра ПАДАЛКІ.**

*— Уладзімір Васільевіч, вы ўжо не першы год працуеце ў турызме і можаце параўноўваць дзень учарашні і цяперашні, ведаючы праблему знутры...*

— Так, на гэтай рабоце я больш дзесяці год. Напачатку займаўся прыёмам замежных гасцей, у асноўным з краін сацыялістычнага блоку, а недзе з 88-га года адпраўкай за мяжу беларускіх турыстаў. Праўда, на той час выезд быў не так моцна развіты. Турызм існаваў на прынцыпах безвалютнага абмену: колькі чалавек прынялі, столькі і адправілі. Так існавала прыкладна да 87—88-га года. Пасля людзі самі плацілі за свае пуцёўкі, і, павінен сказаць, нейкі час гэта было па кішэні даволі многім. Зараз, на жаль, сітуацыя значна пагоршылася, і, як вынік, турызм усё змяншаецца і змяншаецца...

*— Такім чынам, пік выязнога турызму для Беларусі аказаўся непрацяглым і ўжо мінуў?*

— Ведаеце, нельга падыходзіць да ўсіх фірм з адзінай меркай. У каго як складвалася. Напрыклад, калі я працаваў у Мінск-турысце, гэта 89—90-я гады, мы толькі ў адну Югаславію за чатыры месяцы адправілі 44 групы, а Інтурыст — 1—2 у месяц. Памятаю, каля 20 груп паехала ў Венгрыю. Тады быў вельмі цікавы турызм. Таксама безвалютны, але ўжо не ў рамках дзяржавы, а ў межах турыстычных кампаній. А прыём актыўна ішоў да 87-га года, пакуль жыла цэнтралізаваная сістэма.

*— Гэта былі не транзітныя групы, а менавіта тыя, хто ехаў у Беларусь?*

— Увогуле, так. А калі дакладней, існавалі маршруты Цэнтральнага савета па турызму і экскурсіях. Звычайна гэта выглядала наступным чынам: група прыязджала ў СССР на дзесяць дзён, з іх 3 дні — Масква, столькі ж — Ленінград, па два ў Кіеве і Мінску, і на выезд. Калі сістэма рухнула, фірмы сталі самастойна заключаць дагаворы, і справа пачала прымаць іншы абарот.

*— Мабыць, тады і нарадзіўся прыватны турыстычны бізнес?*

— Але напачатку гэта былі адзінкавыя прыклады, яшчэ нават і не фірмы, а толькі кааператывы, прычым на ўвесь Мінск два ці тры.

*— У той час і ўзнікла на турыстычным гарызонце капіталістычнае замежжа?*

— Крышачку пазней, недзе ў 93-м.

*— Ініцыятыву праявілі менавіта прыватныя кампаніі?*

— Справа ў тым, што Інтурыст, "Спутнік" і прафсаюзы, тыя тры кіты, што доўгі час займаліся замежным турызмам, мелі сваіх прадстаўнікоў за мяжой, працавалі праз іх. Прыватным фірмам не было праз каго дзейнічаць, яны пачалі выходзіць напрамую на адпаведных партнёраў і дамаўляцца з імі. Пачаўся, як б сказаў, турызм больш цывілізаваны, калі ўжо не дзяржава, а само жыццё дыктавала, з кім працаваць. Бо яшчэ не кожная краіна магла і прыняць нашых турыстаў.

*— Якія развітыя краіны першымі пайшлі на падобны кантакт?*

— Немцы, іспанцы, італьянцы, карацей, тыя краіны, што традыцыйна займаюцца ўязным турызмам. Да першых можна далучыць і Кіпр. Мы яго "адкрылі" ў 89-м годзе, першыя групы ездзілі па безвалютным абмене.

*— Якія месцы зараз у беларускіх турыстаў найбольш папулярныя?*

— Мне здаецца, галоўнае тут не ў тым — больш ці менш папулярныя. Галоўнае — сёння кожны можа выбіраць, што яму хочацца і падыходзіць.

*— Але ж паездкі ў былыя сацыялістычныя краіны так і засталіся таннейшымі?*

— Быў перыяд, калі і там цэны пачалі расці. Але хутка турфірмы зразумелі: за такі кошт да іх ніхто не паедзе. І сёння, напрыклад, у Чэхіі нармальныя, прымальныя цэны, таму туры туды вельмі папулярныя.

*— А самой турыстычнай фірме выгадней працаваць з дарагімі ці таннымі турамі?*

— Лічу, розніцы няма.

*— За апошнія гады наша грамадства ўвогуле моцна збяднела, мабыць, і плацежаздольнасць кліентаў знізілася. Ці адчулі вы ўжо гэта ў рабоце?*

— Канешне. Мінулы сезон асабліва. Адна з яго асноўных прыкмет — узрос попыт на недарагія паездкі. Мяркуючы па ўсім, такая тэндэнцыя захаваецца і надалей.

*— Ці адпаведныя цэны беларускіх турфірм аналагічным па якасці паслугам іх калег у іншых краінах?*

— Калі браць Кіпр, то я, можа, нават для некага адкрыю тайну: да розных краін там розныя падыходы — адна і тая ж гасцініца на розных рынках прадаецца па-рознаму. Існуе асобная цана — для кіпрыётаў, амерыканцаў, немцаў, французаў і г. д., другая — краін Усходняй Еўропы і трэцяя — краін СНД. Дык вось, для Усходняй Еўропы цэны ніжэйшыя, чым для "эсэндэшнікаў".

*— Адразу ўзнікае пытанне — чаму? Няўжо мы багацейшыя? Ці такім чынам абмяжоўваецца ўезд?*

— Не ведаю. Але падобная практыка ёсць. Хаця нашы, калі прыязджаюць, сапраўды шмат грошай там трацяць...

*— Ранейшыя турысты, савецкія, вызначаліся сціпласцю, непатрабавальнасцю. Цяперашнія вашы кліенты, мабыць, зусім іншыя?*

— І зноў нельга адказаць адназначна. Яны розныя. Многія паводзяць сябе, як і ўсе прыстойныя сучасныя людзі, але хапае і такіх, што, як кажуць, "з гразі ды ў князі". А ўвогуле заўважана: на тым жа Кіпры (часта спасылаюся на яго, бо даўно працую з гэтай краінай) гасцініцы, дзе жывуць турысты з былога СССР, якія там па-ранейшаму традыцыйна завуцца "рускія", зніжаюць патрабавальнасць да работы. Таму летась наша фірма старалася прапаноўваць сваім кліентам гатэлі, не абжытыя турыстамі з розных куткоў СНД. Здаралася, гэта нават было катэгарычнай умовай.

*— Якія яшчэ пажаданні выказваюць цяперашнія турысты, калі едуць за мяжу? Месяц з неба не патрабуюць?*

— Масавы турыст па-ранейшаму непераборлівы: яму патрэбны пожак, харчаванне і каб мора побач. Больш, практычна, нічога не трэба. Тыя ж людзі, што могуць дазволіць сабе дарагі эксклюзіўны тур, канешне, пытанняў задаюць шмат. Іх цікавіць і падводнае плаванне, і машыны напракат, і масажныя кабінеты, спартыўныя пляцоўкі... І, канешне, практычна ўсіх — экскурсіі. Месяц пакуль ніхто не заказваў, але аднойчы здарылася, запатрабаваную паслугу на месцы забяспечыць не здолелі, мы нават спецыяльны запрос рабілі. Здаецца, гэта было на Балі. А так едуць і на Сейшэлы, і на Мальдзівы... Куды жадае душа і дазваляюць грошы.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ

# СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ

Ужо стала традыцыяй 1 лютага ў віленскай беларускай школе святкаваць дзень гімназіі, якая існавала ў Вільні з 1919 да 1944 года, пакуль не была закрыта савецкай уладай. З 1944-га на працягу пяцідзесяці гадоў пра яе ніхто не ўспамінаў. І толькі ў 1989 годзе, калі змянілася сітуацыя ў краіне, успомнілі пра гімназію, адзначылі яе 70-годдзе ў даволі вузкім коле беларускай інтэлігенцыі Вільні.

Тады яшчэ жыў Янка Багдановіч, да якога мы прыходзілі паслухаць яго ўспаміны пра дзейнасць Віленскай беларускай гімназіі, друкарні імя Францішка Скарыны, пра выпрабаванні і пакуты, што былі ў ягоным жыцці, пра пасляваенную працу ў віленскіх школах. Янка Багдановіч быў надзвычай цікавым і добрым чалавекам, сведкам і ўдзельнікам беларускага культурнага жыцця ў Вільні на пачатку нашага стагоддзя і ў міжваенны час.

У 1994 годзе ўрачыста адзначылі 75-годдзе гімназіі. Пасля адкрыцця беларускай школы ў Вільні адзначаць дзень гімназіі стала традыцыяй. Самае галоўнае — гэта сустрэча з былымі выпускнікамі гімназіі, пачуць ад іх жывое слова пра нашу гісторыю, сведкамі і актыўнымі ўдзельнікамі якой яны былі.

Самы яркі ўспамін з гадоў вучобы ў гімназіі для Лявона Луцкевіча, які вучыўся ў 1931—1937 гадах, — гэта твары і постаці выкладчыкаў гімназіі. Для Веры Шостак і Соні Тулейкі — настаўнікі, выступленне хору Р. Шырмы, канцэрт М. Забэйды-Суміцкага. "Мы сядзелі ў першым радзе на балконе і кідалі ў ногі артысту васількі". Для Мікалая Рулінскага і Лявона Караля на ўсё жыццё запомніўся іспыт па беларускай мове, які прымала настаўніца Алена Сакалова-Лекант, якая стала для вучняў апякуншай і на гады вучобы замяніла ім маці. Многія прыехалі вучыцца з вёсак, бацькі не мелі магчымасці плаціць за навуку. Трынаццацігадовым хлопцам прыехаў з Навагрудчыны ў гімназію вучыцца Пятро Новік, яго ўсім бясплатным забяспечыў Барыс Кіт, тады выкладчык матэматыкі ў гімназіі.

Для віленскай беларускай школы ў гэтым годзе дзень гімназіі — асаблівае свята. Школе прысвоена імя Ф. Скарыны, які ў 1522—1525 гадах тут, у Вільні, выдаў першыя друкаваныя кнігі "Малую падарожную кніжыцу" і "Апостала" трыма гадамі пазней.




У школе арганізавана выстава дзіцячых малюнкаў: "Эмблема школы", "Мая школа" і "Мая настаўніца". На святе гучалі песні, вершы ў выкананні вучняў. А найцікавейшым быў конкурс на самага кемлівага вучня і вучаніцу. На наступны дзень свята працягнулася ў Базыльянскіх Мурах, у якіх размяшчалася Віленская беларуская гімназія да 1944 года, пакуль не была закрыта. Тут асобая атмасфера, якая дае магчымасць апынуцца ў першай палове XX стагоддзя.

"Ёсць начытаныя кнігі, ёсць намоленыя іконы, а ёсць і наслуханыя сцены, якія могуць гаварыць", — сказала дырэктар школы Галіна Сівалава. Цяпер беларуская школа знаходзіцца на вуліцы Сеціна, што ў перакладзе з літувіскай мовы абазначае нябесны промень.

Віленская беларуская гімназія ўтрымалася на працягу 25 гадоў, насуперак самым розным вятрам. У адроджанай беларускай школе ў Вільні працаваць не проста, але ёсць традыцыя, ёсць мадэль беларускага навучання, і трэба імкнуцца да той ідэальнай атмасферы, якая была закладзена ў гімназіі.

Леанід Дранько-Майсюк сказаў: "Мая творчая мэта ў тым, каб са старонак маіх кніг прыгожа гучала яна, — цудоўная, запамінальная і вечная, — наша родная мова". У нашай школе імкнуцца, каб у многагалоссі Вільні гучала наша родная, беларуская мова.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

# «ПЛЯМЫ НА СОНЦЫ»

Паважаны рэдактар!

Як вядома, развіццё любога народа, а тым больш беларускага, для якога больш за ўсё падыходзяць словы вялікага рускага паэта Пушкіна: "к истине равнодушен, но баснями питается он", патрабуе добра ведаць сваё мінулае, каб не рабіць памылак у сучасным, ды і на будучыню патрэбна глядзець не "с закрытыми глазами".

Вядома і тое, што беларусы, як ніякі народ, адносяцца да рускіх з своеасаблівым "пиететом". Я не быў бы перад сваім сумленнем чыстым, калі б не сказаў наступнае: сапраўды вялікай дзяржавай з'яўляецца Расія, і па ўсім відаць, яе чакае ўздым як у эканамічным, так і палітычным плане. Важна і тое, што рускія вельмі добразычлівыя людзі. Неяк мой добры знаёмы азербайджанец, які працуе на камбінаце "Североникель", сказаў наступнае: "Я не жадаў бы жыць ні з якім народам апроч свайго і рускага". Пры гэтым дадаў, відаць, каб "подсластить" мне: "І сярод беларусаў". І гэта так. Я і мае землякі не адчуваюць сябе ў Расіі "чужеродным телом".

Але ў маіх землякоў існуе думка, што жыццё ў Расіі лепшае, чым у Беларусі. Трэба адзначыць, што ўзровень жыцця трошачкі вышэйшы, але не настолькі, каб можна было зайздросціць. Калі я слухаю перадачы мурманскага радыё, то ўвесь час думаю: "Добра было б, каб яно, г. зн. мурманскае радыё, трансліравалася ў Беларусі". Магу з упэўненасцю сказаць наступнае: мае землякі падумалі б, што гэта ідзе перадача "вражеского радио". Бо там такое гаворыцца, што сваёй скурай адчуваеш, як цяжка жыве просты народ: нявыплата пенсій, зарплаты, востры недахоп паліва ў многіх гарадах, а адсюль нізкая тэмпература ў кватэрах і г. д. У нашай гарадской газеце "Мончегорский рабочий" таксама друкуецца такое, што, думаю, "напечатай это в Белоруссии", умомант рэдактар быў бы зняты са сваёй пасады...

Я, як гісторык (у свой час закончыў гістарычны факультэт Гродзенскага педінстытута імя Я. Купалы і паспяхова закончыў аспірантуру ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук БССР, г. зн. абараніў кандыдацкую дысертацыю), ведаю, як многія беларускія гісторыкі малююць у ружовым колеры гісторыю Расіі. Але ў Расіі, як і іншых краінах, ёсць, скажам так, "плямы на сонцы"...

Яскравым пацвярджэннем гэтаму з'яўляецца жаданне расійскіх гісторыкаў, філосафаў, эканамістаў крытычна разглядзець ход гістарычнага развіцця і пабачыць, што яму перашкаджае.

Добра ведаючы, што ў Беларусі амаль няма расійскіх выданняў, а гэта датычыць у першую чаргу часопісаў, я вырашыў пераказаць артыкул Д. Каралёва "Великая альтернатива", надрукаваны ў "Новом времени" (№ 52 за 1996 год). Мне здаецца, што ён для чытачоў "Голасу Радзімы" будзе цікавым.

Альтернативам в нашей тысячелетней истории несть числа. Четырнадцатый век: кто объединит Русь? Литва с относительно демократическими традициями и относительно же с имперскими замашками? Вероломная Москва, вотчина "служебников" татарских ханов? Ответ известен. Век шестнадцатый. Как выходить из пучины экономического, социального и династического кризиса, в который вверг страну Иван Грозный? Обратиться к Западу? Опереться на народное представительство? Умиротворить крестьянство, попутно лишить его свободы? И снова делается самый неудачный выбор. Конец семнадцатого столетия: как проводить модернизацию — по Алексею Михайловичу, на накопленных резервах, или по Петру Алексеевичу, на костях? Россия вновь выбирает, а точнее, Всадник медный делает выбор за нее.

Девятнадцатый век: Александр I и Александр II с их конституционными проектами. Дяде мешает ввести в действие Государственную Уставную Грамоту политическое слабоволие, племянник погибает накануне фактического созыва учредительного собрания от бомбы, брошенной борцами за свободу. 1907-й: компромисс с Думой или ее разгон с изменением избирательного закона? Февраль 1917-го: "цензовая" демократия или бардак без цензов? 1928-й: нэп или сталинизм? 1945-й: свободные выборы и присоединение к плану Маршалла или ужесточение режима? Как говорится, далее везде.

Безусловно, правы те исследователи минувшего и публицисты, которые называют российскую историю историей неудавшихся альтернатив. Несбывшихся планов...

Я ўяўляю сабе, каб, напрыклад, хто-небудзь з маіх знаёмых гісторыкаў прынёс напісанае ў такім плане, нават больш памяркоўным, намесніку Беларускай Энцыклапедыі Пятру Петрыкаву ці іншаму рэдактару, нават уключаючы Вас, шаноўны Вацлаў Мацкевіч, якая была б рэакцыя... Меў рацыю Уладзімір Ленін, калі пісаў, што чалавек, які перайшоў у другую нацыю, становіцца больш "русским, чем сами русские"...

Паважаны рэдактар! Спадзяюся, што гэта будзе надрукавана, бо, як сведчыць газета, пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, якія друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск,
Мурманская вобласць.

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# РОД СЛОНІМСКІХ СА СЛОНІМА

Амаль сенсацыйнай аказалася для мяне знаходка пра род Слонімскіх са Слоніма. Справа ў тым, што ў польскім штодзённым выданні "Gazeta Wyborcza" ў верасні мінулага года быў надрукаваны ўрывак з кнігі ўспамінаў Міколы (Нікаласа) Слонімскага "Слых абсалютны", якая павінна была пабачыць свет у снежні 1996 года ў Кракаве ў выдавецтве "Знак". Тэлефаную ў Беласток сябру, беларускаму журналісту Віталю Лубу, каб тэрмінова зрабіў ксеракопію ўспамінаў з гэтай газеты. Праз дзён дзесяць тэлефонны званок з Беластока, і аптымістычны голас Віталя ліведамляе: "Набыў для цябе газету, а на днях у кнігарнях павінна з'явіцца і кніга Міколы Слонімскага "Слых абсалютны" на польскай мове. Прыязджай, калі ласка, бо гэта для цябе будзе цікавай знаходкай, тут ідзе размова пра тваіх землякоў...".

Праз некалькі дзён я ўжо ў Беластоку, чытаю газетны ўспамін. Заходзім з Віталем у кнігарню і купляем прыгожа аформленую кнігу Міколы Слонімскага "Слых абсалютны" ў перакладзе з англійскай мовы на польскую Рафала Смятаны. Пераклад цяжкі, але ўспаміны каштоўныя. Яны дапамаглі натрапіць на сляды пошукаў новых імёнаў нашых землякоў, прозвішчы і дзейнасць якіх невядомыя не толькі слонімцам, але амаль і ўсёй культуры Беларусі. Калі вярнуўся з Беластока, пошукі і ўдакладненні пра род Слонімскіх працягваў ужо ў родным горадзе. Адчуваю, што шмат знаходак яшчэ чакае наперадзе. Цяпер усё па парадку.

Аўтар кнігі Мікола Слонімскі нарадзіўся ў 1894 годзе ў Санкт-Пецярбургу. У 1916 годзе быў прызваны ў войска, адтуль трапіў у музычную секцыю Праабражэнскага палка, які быў створаны некалі як асабісты полк Пятра Першага. У 1919 годзе пакінуў Расію і трапіў у Парыж, а праз некалькі гадоў выехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі.

З дзяцінства Мікола Слонімскі быў надзелены абсалютным слыхам і фенаменальнай памяццю. Ён вучыўся ў Пецярбургскай кансерваторыі, штудзіраваў матэматыку, фізіку і астраномію, вучыў дзяцей Вялікага князя Мікалая іграць на фартэпіяна. Быў акампаніятарам, кампазітарам, дырыжорам, выступаў з канцэртамі ў Еўропе і Штатах, выкладаў рускую мову ў Гарвардскім універсітэце, кіраваў Бостанскім камерным аркестрам.

Мікола Слонімскі першы ў свеце прыдумаў прымяняць да рэкламы музыку.

І ўсё ж сапраўднае прызванне выявілася ў яго ў пяцідзесяцігадовым узросце, бо да сённяшняга дня нашага далёкага продка адносяць да кагорты самых выдатных музычных лексікографаў свету. Ён напісаў шмат найцікавейшых кніг. Сярод іх і такія, як "Лексікон музычных лаянак". Гэта зборнік нападаў крытыкі ў адрас кампазітараў ад часоў Бетховена. Гэта і "Скарбонка гам і меладычных укладаў" — упарадкаваны камплект усіх магчымых паслядоўнасцей гукаў, раскладзеных паводле колькасці паўтонаў. Гэтая кніжка выклікала фурор сярод джазмузыкантаў у Харлеме. Яна служыла ім як кніжка меладычных рэцэптаў.

Цікавай, своеасаблівай хронікай, у якой былі зафіксаваны штодзённыя здарэнні ў галіне музыкі, як сур'ёзныя, так і кур'ёзныя (рэкорд трываласці фартэпіяна, выпадак ігры на арфе пад вадою, арышт у час першай сусветнай вайны за шпіянаж адной знакамітай опернай спявачкі і г. д.), была кніга "Музыка з 1900 года".

Мікола Слонімскі шмат гадоў быў галоўным рэдактарам "Міжнароднай энцыклапедыі музыкі і музыкантаў", а таксама "Біяграфічнага слоўніка музыкантаў". Адзін з прыхільнікаў яго творчасці неяк напісаў: "Немагчыма ўвайсці на музычнае неба, каб святы Мікола не праводзіў да брамы". Сапраўды, Мікола Слонімскі быў знаёмы амаль з усімі вялікімі музыкантамі і кампазітарамі свету XX стагоддзя. Дарэчы, ён пражыў 101 год.

У 1981 годзе, калі яму было 87 гадоў, іграў у Санта-Моніка сола на фартэпіяна з аркестрам Франка Запы, які прадставіў яго амерыканскай публіцы так: "А зараз будзе іграць Мікола Слонімскі, наш нацыянальны скарб". Паўстаюць пытанні: кім лічыў сябе — рускім, беларусам, амерыканцам — Мікола Слонімскі? Чый на самай справе ён зямляк? На гэтыя пытанні і дае адказы сам Мікола Слонімскі ў аўтабіяграфічнай кнізе "Слых абсалютны", якая выйшла з друку ў мінулым годзе ў Кракаве, а першае англамоўнае выданне з'явілася ў Англіі ў 1988 годзе. Вось што ён піша: "Я ведаў, што сям'я бацькі паходзіць з Польшчы, а маці — з Украіны, тады на пытанне калег з класа, ці я яўрэй, мог згодна з праўдай адказаць, што я напалову паляк і напалову ўкраінец. Канчатковы накдаўн я атрымаў тады, калі ў рускай энцыклапедыі прачытаў біяграфічную даведку бацькі і знайшоў спасылку "Сын папярэдняга". А папярэднім быў Хаім Зэлік Слонімскі, які быў прадстаўлены як вядомы яўрэйскі вучоны і вынаходнік. Гэта ж праўда, мы — яўрэі.

Неяк аднойчы адважыўся я і запытаўся ў маці, ці яна таксама яўрэйка. Маці моцна зазлавала:

— Гэта няпраўда! — крыкнула. — Я — украінка, а твой бацька — паляк з Расіі...

Надалей маці рашуча аспрэчвала нашы яўрэйскія карані, хапаючыся пры гэтым за свае крыжы і іконы і, шукаючы ў іх паратунку, старалася растлумачыць паходжанне прозвішча Слонімскі. Дзеля гэтага яна расказала вось такую гісторыю.

— Нашы далёкія продкі, — казала мне і малодшым братам, — кіравалі ў горадзе Слоніме ў Польшчы, але былі звергнуты ў сярэднявеччы ў выніку бунту.

Мікола Мінскі, паэт, які прысутнічаў і быў сведкам матулінага аповяду пра падзенне дома Слонімскіх у Слоніме, спыніў яе:

— Гэта быў не бунт, — паправіў, — а гэта быў пагром!.."

Сапраўды, за апошнія трыста гадоў у Слоніме было некалькі бунтаў і пагромаў яўрэйскага насельніцтва, якое ў свой час складала больш пяцідзесяці

працэнтаў жыхароў горада над Шчарай. Апошні страшны пагром быў у гады Вялікай Айчыннай вайны (1941—1945), які ўчынілі нямецка-фашысцкія захопнікі.

У 1935 годзе, адразу пасля атрымання амерыканскага грамадзянства, наш далёкі зямляк Мікола Слонімскі наведаў былы СССР і ўпершыню за апошнія семнаццаць гадоў спаткаўся з Радзімай. Ён гасцяваў у свайго брата Міхаіла Слонімскага, савецкага пісьменніка. Нарадзіўся Міхаіл Слонімскі ў 1897 годзе ў Пецярбургу. Вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Петраградскага універсітэта. Першая яго кніга апавяданняў "Шосты стралковы" (1922) прысвечана першай сусветнай вайне. У рамане "Лаўровы" (1926) намаляваў вобраз маладога інтэлігента. Гэтую тэму працягваў і ў сваёй трылогіі "Інжынеры" (1950), "Сябры" (1954) і "Равеснікі стагоддзя" (1959) — пра станаўленне сучаснай тэхнічнай інтэлігенцыі ў першыя гады савецкай улады.

У 1969—1970 гадах у Маскве выйшаў у чатырох тамах яго "Збор твораў".

Памёр Міхаіл Слонімскі ў 1972 годзе, пахаваны ў Санкт-Пецярбургу.

Чарговы раз Мікола Слонімскі апынуўся ў СССР толькі праз 27 гадоў у рамках афіцыйнага культурнага абмену паміж СССР і ЗША. На лётнішчы ў Маскве яго сустракаў ягоны пляменнік вядомы кампазітар Сяргей Слонімскі, які зараз жыве ў Санкт-Пецярбургу і працуе з 1958 года ў кансерваторыі выкладчыкам музыкі. Сяргей Слонімскі з'яўляецца аўтарам опер "Вірынея", "Майстар і Маргарыта", балета "Ікар", кантаты "Голас з хору", шматлікіх сімфоній, вакальных цыклаў і фартэпіянных санат.

Рэдка, але спатыкаўся Мікола Слонімскі і са сваім стрыечным братам Антонім Слонімскім (1895—1976), польскім паэтам у Варшаве. Антоні Слонімскі скончыў Акадэмію прыгожых мастацтваў у Варшаве. У 1918 годзе выйшаў ягоны першы зборнік вершаў "Санеты". Першую сусветную вайну крытыкаваў з пазіцыі абстрактнага гуманізму. Гэтай тэме былі прысвечаны кнігі "Парад", "Час паэзіі" і іншыя.

У гады другой сусветнай вайны жыў у Парыжы і Лондане, выдаў антыфашысцкія зборнікі вершаў "Трывога", "Попел і вецер".

Тры гады ўзначальваў Саюз польскіх пісьменнікаў. У 1955 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію ПНР.

Як бачыце, са старажытнага роду Слонімскіх са Слоніма выйшла многа таленавітых і вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва. Сярод іх пералічаныя вышэй Мікола, Міхаіл, Сяргей і Антоні Слонімскія. Іх дзеці і ўнукі жывуць цяпер у розных краінах свету. Толькі ці ведаюць яны, што зямля іх бацькоў, дзядоў і прадзедаў — гэта слонімская зямля на Беларусі? Зямля, дзе пачаўся і працвітаў род славутых Кастравіцкіх, Агінскіх, Пуслоўскіх, Ваповічаў, а таксама род Слонімскіх.

Сяргей ЧЫГРЫН.

## «БОЛЬ ЧАРНОБЫЛЯ»



**Мноства цікавых дакументаў сабрала за некалькі гадоў свайго існавання экспазіцыя "Боль Чарнобыля", якая адкрыта ў Краснапольскім гісторыка-этнаграфічным музеі. Яна пастаянна папаўняецца новымі матэрыяламі, адборам якіх займаюцца дырэктар музея Віктар ЛАЗАВІК, заснавальнік фондаў Таццяна КОРШЫКАВА і мастак-афарміцель Таццяна АЎРАМЕНКА (на здымку).**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

### *У. БОРЗАБАГАТЫ — АДНАДУМЦА КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА*

# АД НЯНАВІСЦІ ДА СПАГАДЫ

Аб дачыненні У. Борзабагатага да паўстанцкай арганізацыі ўладам стала вядома ў пачатку ліпеня 1863 года. А было гэта так. Аднойчы, калі яго брычка стаяла ля заезнага дома, а сам ён перад выездам у вёску да хворага дапіваў шклянку чаю, увайшоў незнаёмы жандар і запытаў пра доктара. Здагадаўшыся, што той не ведае яго ў твар, Уладзіслаў Канстанцінавіч запрапанаваў крыху пачакаць: доктар, маўляў, прыйдзе праз некалькі хвілін. Пакуль жандар уважліва назіраў праз акно за яго брычкай, ён паціху вышаў чорным ходам і дварамі, агародамі выбраўся непрыкметна за ваколіцу. Пешшу, палявымі сцежкамі спяшаўся ён да роднага дому ў Рутку, дзе ў гэты час знаходзілася жонка і двое дзяцей. З дапамогай родных яму пашанцавала хутка замесці сляды і перайсці на нелегальнае становішча.

Спадзеючыся быць карысным справе паўстання, У. Борзабагаты яшчэ нейкі час заставаўся ў павеце. Абавязкі і пячатку паўстанцкага камісара павета ён перадаў свайму калегу, урачу З. Навадворскаму, які, аднак, не спяшаўся праяўляць актыўнасць. Як і К. Кашыц, ён на следстве прызнаўся, што імкнуўся аслабіць паўстанне, а пасля абвяшчэння царскай амністыі для тых, хто здаўся добраахвотна, як быццам склаў з сябе абавязкі камісара.

Значна пагоршылася становішча ў паўстанцкім атрадзе. У сярэдзіне ліпеня царскія войскі правялі шэраг карных экспедыцый. У выніку вялікіх страт у В. Міладоўскага да жніўня налічвалася каля 20 чалавек. Давялося паўстанцам вяртацца ў Карачаеўскія лясы, дзе чакалася папаўненне. Аднак З. Навадворскі не змог або не захацеў накіраваць у атрад 60—70 чалавек, якіх падрыхтаваў раней У. Борзабагаты. Паўстанцы, што засталіся без кіраўніцтва і забеспячэння, вымушаны былі хавацца ў лясах, часта мяняць месца дыслакацыі. Давяршылі справу асеннія дажджы і халады. У кастрычніку 1863 года В. Міладоўскі распусціў рэшткі атрада.

Трапіўшы ў рукі ўлад, К. Кашыц і В. Міладоўскі выдалі многіх удзельнікаў паўстання. На падставе іх паказанняў 24 сакавіка 1864 года пачалося следства. Масавымі праверкамі і арыштамі было ахоплена больш як 100 чалавек. У ходзе судовага разбору, які праходзіў з 11 па 25 верасня 1864 года, самым актыўным удзельнікам і кіраўніком паўстання ў Навагрудскім павеце прызналі У. Борзабагатага. Ён быў прыгавораны да расстрэлу. Да такой жа меры пакарання былі прысуджаны К. Кашыц, С. Алендзскі, З. Навадворскі і М. Дубашынскі.

Па заключэнні часовага палявога аўдытарыята ад 8 снежня 1864 года прысуд аб пакаранні смерцю быў пакінуты ў сіле толькі ў адносінах да У. Борзабагатага. К. Кашыцу за здрадніцкія паказанні і грашовы выкуп 9 тысяч рублёў сэрбрам генерал-губернатар М. Мураўёў замяніў вышэйшую меру на ссылку ў Казанскую губерню з захаваннем правоў і маёмасці. Калі ён вярнуўся з ссылкі, яго адмаўляліся прымаць у польскіх дамах, знаёмыя не хацелі з ім размаўляць.

Вышэйшая мера пакарання пагражала і В. Міладоўскаму. Аднак за маладушша і падрабязныя паказанні палявы аўдытарыят таксама замяніў яму пакаранне смерцю ссылкай на катаргу на 20 гадоў. М. Мураўёў тэрмін катаржных работ у рудніках знізіў да 12 гадоў, а праз год замяніў пасяленнем у аддаленых мясцінах Сібіры. Не вытрымаўшы недаверы і пагарды былых сяброў па паўстанню, здраднік трапіў у вар'яцкі дом у Іркуцку, дзе неўзабаве памёр.

Ваенны суд прызнаў доктара З. Навадворскага, хоць ён гэта рашуча адмаўляў, агентам У. Борзабагатага. За прыняцце абавязкаў паўстанцкага павятовага камісара яго асудзілі на катаржныя работы на 8 гадоў.

Яшчэ 25 чалавек прыцягнулі да адказнасці за садзеянне паўстанню зборам грошай, забеспячэнне адзеннем і харчаваннем, за ўкрыццё паўстанцаў у сваіх дамах. Многіх з іх пазбавілі грамадзянскіх правоў і маёмасці, выслалі ў Сібір. У іх ліку былі ўрачы павета Ф. Цвірка, Ф. Клімовіч, Э. Лазоўскі, І. Вызга.

Ссыльцы падлягалі ўсе члены сям'і Борзабагатых. Ваенна-палявы суд некалькі разоў пераглядаў свае рашэнні. У выніку ў Сібір саслалі толькі братоў У. Борзабагатага — Іосіфа і Антона. Іншых членаў сям'і: маці і жонку У. Борзабагатага, яго братоў Ігната і Баляслава — у ліку 15 "прикосновенных" да паўстання аддалі пад нагляд паліцыі.

Пасля разгрому навагрудскай рэвалюцыйнай арганізацыі У. Борзабагаты перайшоў на нелегальнае становішча. Нейкі час ён хаваўся ў Гродне, потым у Калішы. Але небяспека быць апазнаным жандарамі пагражала на кожным кроку. Нарэшце яму ўдалося перайсці аўстрыйскую граніцу і дабрацца да Італіі. Праз пэўны час выгнаннік пераехаў у Парыж.

Як сведчыў У. Борзабагаты, пагроза зняволення навісла над ім яшчэ ў чэрвені 1863 года. Ужо тады яго насцярожыла, што палкоўнік Чартоў загадаў яму ні ў якім разе не адлучацца з Навагрудка. Прадчуваючы арышт, ён з братам Іосіфам заклаў тайнік з адзеннем і прадуктамі. 5 ліпеня 1863 года Уладзіслаў Канстанцінавіч знік з Навагрудка і на працягу двух месяцаў хаваўся ў Моцанскім казённым лесе. Паліцыя некалькі разоў рабіла вобыскі ў Рутцы, разлічваючы злавіць уцекача. Памылкова быў арыштаваны Баляслаў, вельмі падобны да старэйшага брата, але гэта хутка высветлілася, і двайніка адпусцілі.

У. Борзабагаты ўспамінаў, што яму прыходзілася многа вандраваць. Апрануты ў сялянскае адзенне, ён блукаў каля Слуцка, у Налібоцкім і Мілавідаўскім лясах. Ад працяглай адзіноты ратаваўся размовамі з кветкамі і птушкамі. Першая восень і зіма прайшлі параўнальна лёгка. Другую зіму перажыць было цяжка. З-за моцных маразоў давялося пакінуць лес. А купляць прадукты і адагравацца ў корчмах рабілася ўсё больш небяспечным.

У чэрвені 1865 года У. Борзабагаты вырашыў эмігрыраваць у Францыю. Там знаходзілі прытулак і спачуванне многія ўдзельнікі паўстання. Дарога чакала няблізкая, пагроза выкрыцця падпільноўвала на кожным кроку. Спачатку меркавалася трапіць у Маскву, каб дастаць там пашпарт і выехаць за мяжу. У. Борзабагаты дабраўся праз Бабруйск да Рагачова. Там узнікла думка павярнуць на Кіеў, што ён і зрабіў. За вялікую плату ўдалося знайсці праваднікa, які дапамог нелегальна перайсці заходнюю граніцу каля Радзівілава.

Далейшы шлях уцекача ляжаў праз Львоў, Вену і Бухарэст, дзе яго чакалі новыя цяжкасці. Не маючы з сабой урачэбнага дыплома — ён забыў яго дома, калі ўцякаў з Навагрудка, — нельга было і думаць пра медыцынскую практыку. Давялося ехаць далей — у Канстанцінопаль. Усяго адзін дзень у горадзе даў У. Борзабагатаму магчымасць пазнаёміцца з капітанам Гальчынскім, які згадзіўся бясплатна давезці на параходзе "Франсінета" ў Марсель. А там адвакат Хамец дапамог дабрацца да Парыжа. Спачатку жыў то ў аднаго, то ў другога эмігранта. Потым удалося пазычыць крыху грошай і наняць пакой. Беднасць прымусіла шукаць сродкаў да існавання.

Не спадзеючыся без дыплома знайсці медыцынскую практыку ў Францыі, У. Борзабагаты ранняй вясной 1866 года зноў паехаў у Бухарэст. Цяпер ён меў французскі пашпарт і рускі медыцынскі даведнік, у якім было і яго прозвішча. Але і гэта не дапамагло атрымаць дазвол на практыку. Давялося пераехаць у Італію. Пасяліўшыся ў Мілане, Уладзіслаў Канстанцінавіч жыў на выпадковыя заробкі. З Мілана былы паўстанец напісаў пісьмо жонцы з просьбай тэрмінова прыслаць урачэбны дыплом. Праз некалькі месяцаў пакутлівага чакання выратавальны дакумент прыйшоў. Пасля гэтага можна было вяртацца ў Парыж.

Насуперак шматлікім перашкодам У. Борзабагаты намагаўся любымі шляхамі падтрымліваць сувязь з сям'ёй. У пісьмах да жонкі і дзяцей, якія хоць зрэдку даходзілі да іх, прасіў прыехаць у Парыж. А зрабіць гэта было не так проста. Разгляд хадайніцтваў, з якімі звярталася ў розныя інстанцыі жонка эмігранта, зацягваўся. Дапамагло толькі тое, што яна была ўраджэнкай і падданай Швейцарыі. У 1870 годзе (па іншых даных — 1869) удалося ёй з дзецьмі дабрацца да Парыжа. Сустрэча была радаснай, хоць наперадзе іх чакалі новыя выпрабаванні.

Пасля з'яднання сям'я адразу ж апынулася ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Маючы рускі дыплом, У. Борзабагаты мог лячыць толькі эмігрантаў з ліку рускіх і палякаў. Для атрымання права на шырокую практыку Уладзіславу Канстанцінавічу належала прайсці перападрыхтоўку і здаць спецыяльны экзамен.

Жыць даводзілася на невялікі заробак ад прыватнай практыкі. Затое хапала часу для павышэння кваліфікацыі ў лепшых клініках Парыжа. Прыродныя здольнасці дапамаглі хутка асвоіць сучасныя метады лячэння і паспяхова прымяняць іх на практыцы. Гэта садзейнічала росту папулярнасці паміж пацыентамі.

У пачатку артыкула мы расказалі пра даволі незвычайны выпадак з урачэбнай практыкі У. Борзабагатага ў Парыжы. Для лячэння ён змясціў пацыента ў адасобленае памяшканне. Курс лячэння працягваўся 4 месяцы. Увесь гэты час урач ні днём, ні ноччу не пакідаў хворага: даваў лекі, гутарыў з ім, назіраў за паводзінамі. Пра ход лячэння пасольства штодзённымі тэлеграмамі паведамляла Аляксандру II.

Мікалай БАНДАРЭНКА.

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 5—8.**



• ЗАМАК У НАВАГРАДКУ Ў ПАЧАТКУ XVI СТ. •

# ЯН ВІСЛІЦКІ — ЯШЧЭ АДНО ЗАБЫТАЕ ІМЯ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

**(Працяг.
Пачатак на 1-й стар.).**

ляючы подзвігі ў гэтай бітве беларускіх харугваў, ахарактарызаваў беларусаў як "славутых сваёй мужнасцю на вайне". У паэме паэтызавана пададзены геraічныя вобразы караля Ягайлы і Вялікага князя Вітаўта, узнёслыя радкі прысвечаны "беларускай дзеве" — князёўне Зосьцы Гальшанскай, якая стала жонкай Ягайлы. Пранікнёна і шчыра распавёў аўтар пра веліч і прыгажосць роднага краю. Ён паглыбіўся ў гістарычныя падзеі стогадовай даўніны, дбаючы пра агульныя інтарэсы славянскага свету, і ў пачатку XVI стагоддзя паказаў усёй Еўропе геraічнае мінулае свайго народа. Ён сцвярджаў, што на прыкладзе пераможнай бітвы пад Грунвальдам павінны выхоўвацца сучаснікі і нашчадкі, бо мужнасць іх узмацняецца "любоўю да хвалы радзіме". А ў канцы паэмы ён заклікаў: "Каб жылі ўсе народы шчасліва, каб ваенны гром абышоў свет сармацкі здалёку, на лемяшы прызначым мячы баявыя... ды наступіць найлепшы мір". А ўвогуле Ян Вісліцкі быў прыхільнікам збліжэння культур Усходу і Захаду.

Многія эпічныя карціны ў паэме напісаны ім пад уплывам "Аповесці мінулых гадоў" і быліннага эпасу, таму Грунвальдскую бітву ён разглядае як змаганне народаў, а не барацьбу паміж каралямі і князямі. З гэтае прычыны даследчыкі лічаць паэму Яна Вісліцкага вытокам жанру эпапеі ў беларускай, польскай і літоўскай літаратурах, а яго самога — пачынальнікам традыцыі, што развівалася ў творчасці М. Гусоўскага, "Хронікі польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі" М. Стрыйкоўскага, "Хронікі Быхаўца", "Конрадзе Валенродзе" і "Гражыне" А. Міцкевіча.

На жаль, паэма "Пруская вайна" да гэтага часу не перакладзена на беларускую мову і практычна невядомая беларускаму чытачу.

Вярнуць Беларусі са шматвяковага забыцця імя Яна Вісліцкага, славутага паэта-лацініста XVI стагоддзя, — наш агульны клопат і абавязак.

Каб ушанаваць памяць пра нашага знакамітага земляка, у пачатку года адбылася вечарына ў гасцёўні У. Галубка, дзе на працягу снежня 1996 года і ўвесь студзень 1997 года знаходзілася выстава, прысвечаная 480-м угодкам з дня выхаду ў свет паэмы Яна Вісліцкага "Пруская вайна".

У выставе прынялі ўдзел мастакі В. Асташонак, М. Басалыга, Я. Кулік, М. Купава, А. Марачкін, Ю. Піскун, Р. Сітніца, У. Сулкоўскі, В. Сташчанюк, У. Хадаровіч, А. Шатэрнік, якія не толькі праілюстравалі сваімі творамі батальнага жанру бітву пад Грунвальдам у 1410 годзе, але і праілюстравалі духоўную і матэрыяльную культуру Беларусі, яе гісторыю праз гістарычныя падзеі першага беларускага Адраджэння.

Узнікненне рэнесансавай беларускай літаратуры на лацінскай мове было абумоўлена асаблівасцямі Адраджэння на Беларусі, якое сінтэзавала мясцовыя (сармацкія), грэка-візантыйскія і заходнееўрапейскія культурныя плыні. Культура Беларусі да XVI стагоддзя ўжо творча пераасэнсавала заходнееўрапейскія традыцыі і ўспрыняла па-свойму еўрапейскія навацыі так глыбока, што да сярэдзіны XVI стагоддзя змагла нарадзіць дзеячаў і паэтаў еўрапейскага маштабу і значэння: Ф. Скарыну, Я. Вісліцкага, М. Гусоўскага і іншых, знаёмства з якімі яшчэ наперадзе.

Так, Яўген Кулік упершыню намаляваў і прадставіў на гэтую выставу партрэт Яна Вісліцкага. Менавіта такім Вісліцкі ўяўляецца мастаку: авальны твар, высокі лоб, выразна праступаючыя скулы, мужны і духоўна моцны чалавек, засяроджаны на сваіх праблемах. Партрэтам Яна Вісліцкага наш мастак завяршыў своеасаблівы трыпціх пад назвай "Дзеячы Адраджэння XVI стагоддзя Мікола Гусоўскі, Францішак Скарына, Ян Вісліцкі".

Пад гэтым жа трыпціхам Я. Кулік размясціў яшчэ адзін: ілюстрацыі да паэмы М. Гусоўскага "Песня пра зубра" ("Нашэсце", "Трыумф", "Бітва"), таксама выкананыя пяром.

У кампазіцыі "Нашэсце" мы бачым на пярэднім плане забітых рыцараў і гаротных беларускіх сялян: жанчын у намітках вакол галавы і сталага ўзросту мужчыну ў этнічна-беларускай вопратцы, які вядзе за руку хлапчука. Яны нібы брыдуць ад сваіх згарэлых паселішчаў, бо за імі ўздымаюцца ў неба чорныя клубы дыму. Гэтыя сяляне нагадалі мне бежанцаў з Мінска ў час другой сусветнай вайны, калі мы (трое дзяцей і маці) пешшу пакідалі палаючы Мінск. Горад гарэў, бо яго бамбілі нямецкія фашысты. На нашу зямлю праз 531 год зноў прыйшлі... не нямецкія крыжакі, а нямецкія фашысты... Пазней падчас акупацыі мяне суцяшала невядома адкуль прыляцеўшае ў маю дзіцячую галаву рускае выслоўе: "Кто с мечом к нам придет, от меча и погибнет". Потым даведалася, што гэтыя словы належалі Аляксандру Неўскаму.

У кампазіцыі "Бітва" экспрэсіўны рысунак мастака выкананы, як кажуць, "на адным дыханні", не адрываючы пяра ад ліста; у ім перададзены стан бітвы сярэднявечных воінаў; у такой бойцы ўсё клубіцца, неверагодна змяшаліся коні і людзі, ногі, рукі і галовы.

А кампазіцыя "Трыумф" адлюстроўвае ўжо стан трыумфатараў — пераможцаў пасля бітвы. На троне сядзіць стараста Гродзенскі і Трокскі Вялікі князь Вітаўт (1392—1430) з мячом, скіпетрам і дзяржавай. Гэта ён у час Грунвальдскай бітвы асабіста ўзначальваў войскі Вялікага Княства Літоўскага. Вакол Вітаўта — ваяры, святары і шляхцюкі, якія святкуюць перамогу і ўслаўляюць мужнасць князя. Выверанныя і дакладныя па пластыцы рысункі Я. Куліка — гэта шчырае адлюстраванне эпохі ў зразумелай для гледача форме.

Да вобраза Вітаўта — галоўнага камандуючага ў час бітвы пад Грунвальдам — звярнуўся і А. Марачкін. У яго жывапісным партрэце "Вітаўт Вялікі" князь паўстае як мужны воін, упэўнены ў слушнасці сваёй справы. Мастак піша партрэт Вялікага князя, як пераможцы ў вялікай бітве, выкарыстоўваючы традыцыі арыстакратычнага параднага партрэта геraічнага воіна-рыцара, які быў характэрным вобразам беларускіх вершаваных хронік, одаў і паэм XVI стагоддзя і аднachасова мадэллю партрэтаў той эпохі, калі была надрукавана паэма Яна Вісліцкага. Марачкін размяшчае пакален-

**НА ЗДЫМКУ: В. СТАШЧАНЮК. "Замак у Навагрудку ў пачатку XVI ст.".**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

Хор Тэраўскага заўсёды працаваў у кантакце ці ўвогуле разам з беларускім тэатрам: спачатку ў складзе "Першага таварыства драмы і камедыі", затым з "дзяржаўным", "народным", "савецкім" тэатрам, Таварыствам працаўнікоў мастацтва, з БДТ-1.

У 1918—1920 гадах у Беларусі часта мяняліся ўлады, Мінск пераходзіў з рук у рукі, але беларускі тэатр, а разам з ім і хор Тэраўскага працы не спынялі, праводзілі пастаноўкі. Гэтым самым яны рабілі беларускую справу, абуджалі нацыянальную свядомасць, выхоўвалі кадры харыстаў і акцёраў, прывучалі беларускага гледача сачыць за дасягненнямі тэатра.

У 1918 годзе тэатр большай часткаю іграў у новым сваім памяшканні на ўскраіне горада — у "Беларускай Хатцы", і толькі 19 мая 1918 года на Беларускай вуліцы адкрыўся клуб імя Максіма Багдановіча. Адкрыццё клуба было злучана з 1-й гадавінай існавання тэатра; ставілася п'еса Галубка "Бязьвінная кроў". Апрача п'есы, выступіў першы раз новы скампанаваны беларускі хор пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага, які меў вялікі поспех сярод прысутных.

Канстанцін Пуроўскі, удзельнік хору, затым артыст БДТ, успамінаў: "Прыйшоў я ў "Беларускую Хатку" ...зусім выпадкова. Было гэта так. У 1918 годзе я са сваімі таварышамі-настаўнікамі К. Д. Ламакам і Ул. П. Гулісам убачылі ў горадзе афішу аб канцэрце Беларускага народнага хору пад кіраўніцтвам Ул. В. Тэраўскага. Ніколі мы там не былі і беларускіх песень у мастацкай апрацоўцы для хору таксама да гэтага не чулі. І тое, што мы там убачылі і пачулі, — прыемна нас здзівіла. Па-першае, народу было многа — пажылых і маладых, у асноўным пралетараў з Камароўкі, Старажоўкі і Ляхаўкі і, па-другое, было там што паглядзець і паслухаць.

Адчыняецца заслона — і на сцэне мы бачым у нацыянальных каляровых вопратках невялікі хор. На сярэдзіну выходзіць пажылы, таксама ў лапцях і вышытай рубашцы з каляровым поясам, невысокі па росту і лысенькі чалавек. Міжволі ў нас узнікае лагічнае пытанне — што ж цікавага зможа паказаць наша лапцюжная Беларусь, калі ўвесь свой век яна бачыла толькі гора і няволю? І што ж мы пачулі? Хор паказаў сябе вельмі спетым, з багатай нюансіроўкай і надзвычай чыстым строем, з прыгожымі галасамі..."

А вось што пісаў былы ўдзельнік хору Андрэй Александровіч: "Харысты, абутыя ў лапці, у пярэстай саматканай вопратцы, выступалі перад параненымі салдатамі ў шпіталях, давалі канцэрты для гарадскога насельніцтва, выязджалі ў мястэчкі, дзе, за адсутнасцю клубаў, прыстасоўвалі для канцэртаў пажарныя дэпо". "Хор У. Тэраўскага даваў канцэрты і на падмостках правінцыяльных клубаў. Пры немцах ён ездзіў у Койданава, пры паляках — у Асіповічы, Старыя Дарогі, Слуцк. Быў у Чэрвені і ў бліжэйшых вёсках.

У Слуцку, помню, адбылася палітычна-нацыянальная схватка.

У. В. Тэраўскі заўсёды, складаючы праграму канцэрта, устаўляў дэкламацыю. І вось у Слуцку на канцэрце выступае адзін з харыстаў і дэкламуе верш Янкі Купалы "Ворагам Беларушчыны".

**Чаго вам хочацца, панове!
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус!
Чаму вам дзіка яго мова!
Паверце, вашай ён не ўкраў!**

Польская слуцкая адміністрацыя забараняе хору далейшыя выступленні ў Слуцку і не дазваляе спыняцца на станцыях да Мінска".

Як выглядаў знакаміты хормайстра? Пра гэта мы можам даведацца з успамінаў іншых сучаснікаў. Вось як піша аб ім кампазітар і музыказнаўца Мікола Куліковіч-Шчаглоў.

"Калі хто сустракаўся з кампазітарам Тэраўскім, дык адразу ж набіраўся вельмі прыхільнага ўражання аб гэтым чалавеку. Перш чым гутарыць з вамі, ён, бывала, паглядзіць на вас сваімі праніклівымі вачыма, папраўіць пенснэ і пачне ўважліва слухаць, дзе-ні-дзе падбадзёрваючы вас двума-трыма сказамі. Наагул, гэта быў ціхі, сціплы чалавек і ў жыцці, і ў сваёй творчасці, і ў музычна-грамадскай дзейнасці. Ён ніколі не выхваляўся, не ставіў сваю асобу на вышыню, нават, наадварот, заўсёды імкнуўся ў зацішша, у непрыкметнасць. І вельмі дзіўна, што лёс надарыў гэтага сціплага чалавека, з аднаго боку, надзвычайна цяжкім жыццёвым шляхам, а з другога боку — надзвычайную ролю ў беларускай нацыянальнай культуры".

Паводле ўспамінаў Антона Адамовіча, "Тэраўскі быў невысокага росту, вельмі сабе круглаваты, кругла (й лыса) галовы, даволі мажны. Любіў апранацца ў тон усяму хору, па-народнаму: белая беларуская світка, пад ёй вышываная кашуля з саматканым поясам. Ад усяе постаці Тэраўскага тхнула павагай, часам як бы суравататй нават.

Тэраўскі любіў тварыць уражанне на публіку як наймацнейшае, наймагутнейшае (асабліва пры дапамозе арміі магутных басоў), што нат, як кажуць, "біў на вонкавы эфект". Любіў, прыкладам, стаяць да публікі передам, сам пяючы, а хор як бы й зусім ня кіруючы (на самой рэчы кіраваў пальцам заложанай за спіну рукі, але публіка, не бачачы гэтага, запраўды была ўражана)".

Цяпер — пра харыстаў. Усіх іх прывяла ў хор і тэатр гарачая любоў да беларускай песні. Як пісаў у 1920 годзе Ф. Аляхновіч, "гэта ахвярныя працаўнікі, якія, не шкадуючы сваіх сіл, свайго часу, з энтузіязмам браліся за работу, верачы ў трыумф сваёй ідэі".

Удзельнікамі хору былі рабочыя друкарні, служачыя пошты і чыгункі, настаўнікі і вучні, краўчыхі і нават каваль і шавец.

Актыўна ўдзельнічалі ў хоры настаўніцы мінскіх школ Алена Вайцяховіч і Вольга Дрозд (потым жонка Алеся Сабалеўскага, працаўніка беларускага аддзела Наркамасветы БССР). Як паведамляла газета "Савецкая Беларусь" 8 траўня 1921 года, яны ўдзельнічалі ў пастаноўцы "Паўлінкі" ў сяле Цітва Ігуменскага павета.

Спяваў у хоры і Павел Касач, вядомы пазней дзеяч самадзейнага мастацтва, кампазітар, кіраўнік Лявонавіцкага народнага хору, выкладчык спеваў у Нясвіжскім педвучылішчы. З ім Тэраўскага звязвала агульная праца ў капэле Агрэнева-Славянскага.

Амаль шэсць гадоў, пачынаючы з 8-гадовага ўзросту, спяваў у хоры Тэраўскага паэт Андрэй Александровіч.

Пранікнёна спявала песню "Каля хацінкі", выступала ў спектаклі "На Купалле" і іншых спектаклях Алеся Александровіч. Як піша Я. Рамановіч, акцёр на тым часе, затым тэатральны дзеяч, "яна была ўжо добра вядомай у Мінску салісткай, з непараўнанай дзявочай абаяльнасцю і рэдкім па чысціні лірычным сапрана. Усім нам Алеся ў тыя гады здавалася ідэальным увасабленнем беларускай дзяўчыны, якая нібы сышла са старонак паэзіі Янкі Купалы".

"Увосень 1918 года, — успамінае Я. Рамановіч, — у хоры Тэраўскага ў "Беларускай хаце" (альбо ў "Хатцы", як ласкава называлі яе мінчане) з'явіўся новы барытон. У рад спевакоў стаў прыгожы хлопец з буйным кіпенем кучаравых валасоў. Белая кашуля з яркім народным арнаментам добра адсвечвала ўсмешлівы твар. У залу глядзелі глыбокія, поўныя запаветных думак, чыстыя з іскрынкай вочы". Гэта быў Міхась Чарот.

Не праходзіла без бісаў і песня на словы Купалы "Шумныя бярозы", якую выконвалі Алеся Александровіч, Ганна Бялькевіч і Язэп Васілеўскі. Калі яны даходзілі да месца

**Эй, пайду я ў поле
Долечкі шукаць
З востраю касою,
Як на сенажаць!**

і разварочвалі "на фортэ" магутны заклік:

**Можа, узыйдзе доля
Ясненькай зарой,
Можа, блісне сонцам
Воля нада мной!..,**

дык здавалася, што вось-вось і ўсе слухачы ўздымуцца і пойдуць шукаць сваю шчаслівую долю. Аб гэтым піша ў сваіх успамінах К. Пуроўскі.

Вялікім поспехам карысталіся Кацярына Яноўская (Пуроўская), Марыя Кур'ян, Лідзія Іванчанка, Люба Тарасік (цётка артысткі Беларускага тэатра Алены Рынковіч), Ганна Манцывода і іншыя.

**Працяг.
Пачатак у № 8.**

**Аляксандра ГЕСЬ,
Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.**

## НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ ПОШТЫ

# ВЫДАТНЫМ ПОСТАЦЯМ І ПАДЗЕЯМ

Ужо больш за 60 гадоў спецыяльныя паштовыя навагоднія маркі выпускаюць у многіх краінах свету. Адной з краін-піянераў у гэтай справе стала Японія, выпусціўшы ў 1935 годзе навагоднюю марку з гарой Фудзіяма. Летась упершыню і беларуская пошта далучылася да паштовых ведамстваў тых краін, якія выпускаюць маркі да Новага года. З'явіліся нават дзве маркі. На адной з іх — Прывакзальная плошча сталіцы рэспублікі з архітэктурным ансамблем двух вышынных будынкаў — так званыя "вароты ў сталіцу", на пярэднім




плане — прыгажуня ёлка. Другая мініяцюра ўяўляе сабой нібыта лубачную карціну Траецкага прадмесця з ракой Свіслач і моста праз яе. Першыя беларускія навагоднія маркі атрымаліся прыгожымі і незвычайнымі.

Канец 1996 года азнаменаваўся таксама выпускам трох буйнафарматных марак, што прадоўжылі серыю "Вялікія людзі Беларусі". На марках паказаны партрэты Кірылы Тураўскага (1130—1181) (у некаторых энцыклапедыях і даведніках указана іншая дата смерці К. Тураўскага — 1182 год), Міколы Гусоўскага (1470—1533) і Мікалая Радзівіла Чорнага (1515—1565). Пра гэтых вядомых дзеячаў старажытнай беларускай культуры напісана і вядома многае. Філатэлісты рэспублікі атрымалі ад Белпошты цудоўны падарунак для сваіх калекцый, а іх замежныя калегі, хто цікавіцца беларускай тэматыкай, атрымалі яшчэ адну старонку ў філатэлістычную гісторыю Беларусі.

Выпушчаны таксама паштовыя мініяцюры да юбілею тэатра імя Янкі Купалы і 100-годдзя маршала Г. Жукава, перадваенныя гады жыцця якога звязаны з нашай рэспублікай.

У апошнія дні мінулага года папоўнілі філатэлісты і свае зборы мастацкіх канвертаў. Іх выпушчана некалькі. Тры з іх аформіў мастак Мікола Рыжы.

Адзін з канвертаў выдадзены да 75-годдзя Беларускага дзяржаўнага універсітэта. На малюнку канверта адлюстраваны фасад галоўнага корпуса БДУ і дата заснавання вышэйшай навучальнай установы рэспублікі — "1921". Малюнак упрыгожаны дубовымі галінкамі. Канверт гэты выдадзены з арыгінальнай маркай — у яе малюнку раскрытая кніга з юбілейным тэкстам "БДУ 75 гадоў" на фоне схем, формул і прыбораў.

Другі канверт таксама з арыгінальнай маркай. Ён выдадзены да 100-годдзя з дня нараджэння вядомай беларускай самабытнай мастачкі Алены Кіш, ураджэнкі Случчыны. А. Кіш была вядомая тым, што малявала так званыя дываны на палатне, якія ў большасці сваёй асядалі ў вясковых дамах. У 1978 годзе на адной з мастацкіх выстаў былі паказаны многія работы гэтай незвычайнай мастачкі. Найбольш вядомыя — "Рай", "У райскім садзе", "Дзева на водах", "Пісьмо да каханага". Менавіта два апошнія дываны і былі выкарыстаны мастаком пры афармленні юбілейнага канверта. На яго малюнку — фрагмент дывана "Пісьмо да каханага": лодка, што плыве сярод гарлачыкаў, а ў ёй дзяўчына з кветкамі і два лодачнікі. Над імі галубка з пісьмом у дзюбе. На арыгінальнай марцы канверта — дата нараджэння мастачкі "1896", яе партрэт з надпісам "Алена Кіш" і фрагмент дывана "Дзева на водах".

Споўнілася 50 гадоў Барысаўскаму дзяржаўнаму аб'яднанаму музею. Да юбілею гэтай культурнай установы Белпошта выдала спецыяльны канверт, на малюнку якога мастак М. Рыжы паказаў




будынак музея, юбілейны тэкст, прадметы даўніны, герб горада Барысава і архітэктурныя помнікі горада на Бярэзіне.

Цікавы канверт з арыгінальнай маркай у афармленні мастака В. Сташчанюка выдадзены да 200-годдзя з дня нараджэння беларускага і польскага паэта і фалькларыста Яна Чачота, ураджэнца вёскі Малюшычы (цяпер Карэліцкі раён). На арыгінальнай марцы канверта — партрэт Я. Чачота, даты жыцця і смерці "1796—1847", раскрытая кніга з пяром. На малюнку канверта — навагрудскі Міхайлаўскі касцёл дамініканцаў, помнік барока, пабудаваны ў першай палове XVIII стагоддзя і адноўлены пасля пажараў у 1751 і 1831 гадах, а таксама некалькі будынкаў старыжытнага горада. Пад малюнкам подпіс "Навагрудак. Дамініканскі касцёл і школа, дзе вучыўся Я. Чачот".

**Леў КОЛАСАЎ.**




## НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ





**Імя Веры Салдатавай з вёскі Зазер'е Пухавіцкага раёна ў шэрагу майстроў народнай творчасці займае асобае месца. Вядомы дзесяткі майстроў, якія, асвоіўшы асновы саломапляцення, займаюцца тыражыраваннем адных і тых жа вырабаў. У Веры ўсё інакш. Для яе тэхніка пляцення — толькі сродак увасобіць свае ідэі, няхай часам гэта і адыход ад традыцый народнага саломапляцення. Але, ствараючы свае работы, Салдатава як бы ўдасканальвае, развівае традыцыйнае рамяство — уносіць новы струмень у майстэрства саломапляцення. Сведчанне таму яе незвычайныя і зусім нетрадыцыйныя вырабы.**

**НА ЗДЫМКАХ: майстар саломапляцення Вера САЛДАТАВА; "Анёл" — адна з яе новых работ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

# ЯН ВІСЛІЦКІ — ЯШЧЭ АДНО ЗАБЫТАЕ ІМЯ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ную постаць Вітаўта амаль франтальна, які ўпэўнена апіраецца на магутны меч як сімвал яго асабістай зброі і ваеннай доблесці. Шматлікія стужкі з надпісамі (яны былі характэрныя для беларускага партрэтнага т. зв. "сармацкага тыпу". Тут жа згадаем, што Я. Вісліцкі лічыў сваю краіну "светам сармацкім") даюць пэўныя тлумачэнні аб мадэлі, яе значнасці і дзейнасці, гадах жыцця. Падзяліўшы рамаю палатно партрэта на тры няроўныя часткі (як своеасаблівы трыпціх), мастак буйным планам вылучае ў цэнтральнай большай частцы постаць Вітаўта, а на бакавых частках, быццам на другім плане (драбнейшым маштабам), піша панарамы гарадоў, дзе жыў і дзейнічаў князь. Такім чынам, партрэт становіцца апавяданнем пра князя. Марачкін знарок выбірае манахромны вохрыста-залацісты каларыт, які надае партрэту пэўны "старажытны флёр" і дае магчымасць выкарыстаць своеасаблівае залацістававечаровае асвятленне панарамы гарадоў той эпохі. Такі мастакоўскі ход прыдае своеасаблівую рамантычнасць строгаму вобразу воіна. Нягледзячы на шматлікія дэталі і тэксты, партрэт насычаны духам элітарызму, халаднаватым адчуваннем дыстанцыі паміж гледачом і мадэллю, што надае вобразу Вялікага князя значнасць гістарычнага дзеяча, гаспадара княства. Гэты вывад падкрэслены мастаком у тэксце на стужцы, размешчанай унізе партрэта: "Густа ён справамі век насяліў свой, і водгук спраў тых вячыстых адклікнецца ў многіх стагоддзях". Такую ацэнку дзейнасці Вітаўта даў Мікола Гусоўскі ў сваёй паэме.

Конны партрэт Вітаўта, як палкаводца вялікай бітвы, адлюстраваны ў каляровай аўталітаграфіі Міхася Басалыгі "Вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага Вітаўт" (1989), у якой ён паказаны на чале пераходу коннага войска.

Грунвальдскай бітве быў прысвечаны і вымпел Віктара Асташонка "Грунвальдская бітва".

Значным падзеям часоў выхаду з друку паэмы Яна Вісліцкага — XVI стагоддзе — прысвяцілі свае творы Мікола Купава — аўталітаграфія "Перамога беларускага войска пад Воршай" (1995) і плакат "Аршанская бітва" (1995), а таксама М. Басалыга — каляровая аўталітаграфія "Бітва пад Воршай 1514 г." (1989).

Стан беларускай культуры пачатку XVI стагоддзя, калі выйшла паэма Я. Вісліцкага, быў выдатна адлюстраваны ў творах Міколы Купавы. Так, у супервокладцы да кнігі М. Арочкі "Судны дзень Скарыны" (1990) мастак перадаў дух эпохі Адраджэння праз дакладнае веданне стану культуры Заходняй Еўропы і Беларусі і праз дасканалыя рысункі пражскай і беларускай архітэктуры, адзення, бытавых рэчаў і г. д. Больш глыбокае, нават навуковае ўяўленне пра касцюм тых часоў М. Купава адлюстраваў у каляровай літаграфіі "Адзенне навучэнцаў і выкладчыкаў Кракаўскага універсітэта ў XV — пачатку XVI стагоддзяў. 1. Студэнты. 2. Бакалаўр. 3. Магістр. 4. Доктар медыцыны. 5—6. Прафесары". Такое ж дакладнае веданне мастаком культуры эпохі Адраджэння наглядаецца ў ювелірна выкананых і вытанчаных мініяцюрных выявах архітэктурных панарам заходнееўрапейскіх і беларускіх гарадоў у кампазіцыі з заставак да энцыклапедычнага даведніка "Францыск Скарына і яго час" (1987).

Гэтая ж тэма — беларуская культура эпохі Адраджэння — адлюстравана нашым бліскучым рысавальшчыкам Віктарам Сташчанюком у аўталітаграфіі "Замак у Навагрудку ў пачатку XVI ст." (1990). Гэты мастак больш за дваццаць гадоў вывучае архітэктуру і ўвогуле культуру Беларусі. На мой погляд, ён ужо набыў яшчэ дзве прафесіі — гісторыка культуры і архітэктара-рэстаўратара, — бо ведаю яго аўтарскія рэканструкцыі знішчаных помнікаў архітэктуры Мінска, роднага Навагрудка і інш. Вось і ў гэтай літаграфіі па-навуковаму дакладна і замілавана В. Сташчанюк перадае "цячэнне часу" ў старажытным Навагрудку той далёкай эпохі. Мы бачым на заднім плане знакаміты навагрудскі пагорак, на якім узвышаецца яшчэ не разбураны мураваны замак з магутнымі вежамі. Крыху далей над другім пагоркам узвышаецца мураваная царква XIV стагоддзя. На ўтвораным прыродай "плато" — тады на ім была гарадская забудова — віруе штодзённае жыццё: рухаюцца ваяры на конях, сядзяць каля дамоў жанчыны ў белых намітках, стаіць воз каля бярвенчатага двухпавярховага дома з гонтавым дахам. Гаспадар дома нетаропка запрагае каня... Аўра замілавання сваім мінулым, якое, на жаль, ужо знішчана войнамі і гістарычным лёсам беларускага ўкрыжаванага раздарожжа паміж Захадам і Усходам, перадаецца і гледачу.

Па-навуковаму дакладна адлюстраваны пэўны зрэз культуры Беларусі XVI стагоддзя: адзенне, упрыгажэнні, галаўныя ўборы, музычныя інструменты — у жывапісных і графічных творах Ю. Піскуна "Строі беларускай шляхты XVI ст." і "Песня мінулых часоў". Менавіта ён лепш за іншых нашых мастакоў дасведчаны ў галіне беларускага шляхецкага касцюма, бо даследаваў яго, як мастацтвазнавец і навуковы супрацоўнік.

Скульптар А. Шатэрнік таксама адлюстраваў эпоху XVI стагоддзя, даўшы характэрны для яе зрэз у кампазіцыі "Дыспут". Вядома, што ў сферы навучання і тагачаснай навукі была распаўсюджана менавіта гэтая форма асветы — дыскутаванне паміж студэнтамі, бакалаўрамі, дактарамі, паэтамі, пісьменнікамі і г. д. Пра гэта сведчаць і многія так званыя "палемічныя творы", што дайшлі да нас. Дык вось Алесь Шатэрнік у сваёй кампазіцыі зафіксаваў момант дыспуту паміж чатырма асобамі ў касцюмах той эпохі. Не дэталізуючы іх твары, ён больш увагі надаў ракурсам постацяў, палажэнню рук, галоў і развярнуў іх так, што мы "нібы чуем" разважлівую і спакойную гутарку між дыскутантамі. Кампазіцыйнае размяшчэнне постацяў на плоскасці набліжаецца да тых графічных работ XVI стагоддзя, што вядомы нам з гісторыі мастацтва.

Хоць выстава была камернай па колькасці ўдзельнікаў, але вельмі змястоўнай і насычанай гістарычнай інфармацыяй, адпаведнай тэме выставы.

Такія выставы, прысвечаныя выдатным дзеячам нашага слаўнага мінулага, ілюстрацыйна перадаюць дух эпохі, што дае магчымасць гледачу далучыцца не толькі да прыгожых мастацтваў, але і пранікнуцца павагай да нашых гераічных прашчураў. Фота і слайды з гэтых работ маглі б стаць важным элементам для выкладання гісторыі культуры Беларусі.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК: Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 296. Падпісана да друку 24.2.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**